# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1629) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 2 ЖНІЎНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## НАВАТАРСТВА Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Найбольшае багацце Беласточчыны гэта сельскагаспадарчая вытворчасць, якая пры народнай уладзе зрабіла вялікі крок наперад. Аднак ёсць яшчэ значныя магчымасці павелічэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур і жывёлагадоўлі. Сёння кожнае намаганне, якое спрыяе павелічэнню сельскагаспадарчай прадукцыі, выкарыстанню існуючых рэзерваў, кожнае наватарства цэніцца высока, паколькі яшчэ недастаткова рацыянальна выкарыстоўваюцца мінеральныя ўгнаенні, недастаткова шырока абменьваецца пасяўны матэрыял, а яшчэ горш выглядае справа з рацыянальным адкормам жывёлы. Не надта добра выглядае і справа механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Але разам з усімі агратэхнічнымі недахопамі ёсць шмат прыкладаў, якія сведчаць аб тым, што сельскагаспадарчая прадукцыя Беласточчыны неўзабаве зробіць наступны крок наперад. Ужо ў многіх індывідуальных гаспадарках і ў грамадскім сектары ўводзіцца комплексная тэхналогія раслінай прадукцыі. Пакуль што яна ахапіла толькі 1700 га, там ураджай збожжа павялічыўся на амаль 10 цэнтнераў. Да 1990 года плануецца ўвесці комплексную тэхналогію на 35 тысячах гектараў.

Істотным фактарам, даючым магчымасць уводзіць навейшыя метады апрацоўкі зямлі, з'яўляецца ўрэгуляванне водных адносін. У многіх мясцовасцях выступае вялікі недахоп вады ў калодзежах, а гэта мае адмоўны ўплыў на развіццё жывёлагадоўлі. Шмат яшчэ ёсць працы, звязанай з меліярацыяй зямлі.

Беласточчына з'яўляецца бульбяным басейнам, але тут няма ніводнага прадпрыемства па апрацоўцы бульбы. А гэта спрыяе значным стратам каштоўнай сыравіны.

Беласточчына багатая зялёнымі зямельнымі ўгоддзямі. Яны займаюць тут 34,1 прац. усіх зямельных угоддзяў, у той час, калі ў краіне іх — 21,6 прац. Такім чынам, Беласточчына мае добрыя ўмовы для развіцця жывёльнай прадукцыі. За апошнія гады скупка мясной жывёлы і малака павялічылася тут на 40 прац. Вядома, спрыяла гэтаму і рацыянальнае кармленне. Добрыя вынікі дае вынаходчы праект ваяводскага ветэрынарнага прадпрыемства ў Беластоку, у якім апрацаваны новы тып

(Працяг на стар. 5)

## ВЕКАПОМНАЯ ГАДАВІНА



470 год таму назад, 6 жніўня 1517 года, у чэшскай сталіцы Празе славуты палачанін Францішак Скарына закончыў друкаванне „Песни царя Давыда еже словуть Псалтырь" — першай друкаванай беларускай кнігі. Гэта дата — пачатак беларускага кнігадрукавання.

На здымку: „Слова аб Радзіме. Францішак Скарына" — кампазіцыя (ляўкас, разьба, тэмпера) сучаснага беларускага мастака Віктара Ціханава. 1980 г.

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

### ПАД ПАРАСОНАМ ГІСТОРЫІ

Хацелася мне найперш пакланіцца доктару Францішку Скарыне. Дзень, хаця і ліпеньскі, выпаў, на жаль, халаднаваты, імглісты, з нізкімі хмарамі і надакучлівым дожджыкам. Я стаяў перад помнікам вялікаму палачаніну і чуў, што сэрца ў мяне пераключаецца на паскораны рытм.

У „Аповесці мінулых часоў" Полацк упершыню ўпамінаецца пад 862 годам, значыць, існаваў ён намнога раней. А пасля Полаччына была адным з трох асноўных цэнтраў фарміравання дзяржаўных арганізмаў усходніх славян. Проста склаўся своеасаблівы залаты трохвугольнік: на ўсходзе — Уладзіміраўска-Суздальская Русь, на поўдні — Кіеўская Русь і на поўначы — Русь Белая, дзе княжаскі род Рагвалодавічаў заснаваў Полацкае княства, якое праіснавала да паловы XIV ст. Нашчадкі Рагвалода і Ізяслава Уладзіміравіча — князі Брачыславы пакінулі значны след у гісторыі беларусаў ды і ўсяго ўсходняга славянства. Мала якія еўрапейскія народы могуць пахваліцца такімі выдатнымі і светлымі тагачаснымі дзеячамі як Рагнеда, дачка князя Рагвалода, як Ефрасіння Полацкая і многія іншыя, хаця б той жа Францішак Скарына, якія сталіся гонарам нацыянальнай гісторыі, але таксама і героямі няўміручай легенды беларускага народа.

Помнік доктару Скарыне стаяў у рыштаванні. Яго паставілі на рамонт. Беларусь рыхтуецца адзначыць 500-годдзе з дня нараджэння свайго праслаўленага сына, які паклаў аснову беларускаму кнігадрукаванню. Гэтая круглая гадавіна здзяйсняецца ў 1990 годзе, хаця дакладна, праўду кажучы, невядома, калі ён нарадзіўся і калі памёр. Нават за імя яго гісторыкі дагэтуль спрачаюцца. Доўгі час называлі Скарыну „Георгіем". Цяпер прынята называць яго Францыскам, але памылковасць і абсурднасць гэтай формы яго імя пераканаўча абгрунтаваў Уладзімір Казбярук у „ЛіМ"е (ад 13 лютага г.г.). Вядома затое напэўна, што Францішак быў сынам Лукі, купца полацкага, што рана вывучыў ён лацінскую мову і ў зімовы семестр 1504 г. паступіў на філасофскі факультэт Кракаўскага

(Працяг на стар. 4)

## НА МЯЖЫ

### АБ „НІВЕ“

Што датычыць ролі і заслуг „Нівы“, дык перш за ўсё праяўляюцца яны ў беларускім літаратурным руху. Памятаю першыя гады „Нівы“: Зрэшты, можна сказаць, не гады, а месяцы ці нават тыдні. Ужо тады паяўляліся на яе старонках літаратурныя творы. Былі гэта наогул вершы, аднак не толькі. „Ніва“ дала сваім тагачасным чытачам і апавяданні. і навелы, і літаратурныя фельетоны і нават вершаваную аповесць, калі не памыляюся, аб хлопцу-зуху Абротцы. Па сутнасці ніхто дагэтуль не палічыў, колькі літаратурных твораў: вершаў, апавяданняў, аповесцей, літаратурных фельетонаў, крытычна-літаратурных артыкулаў апублікавала „Ніва“. Я ўжо некальк разоў прапанаваў студэнтам універсітэта тэмы магістэрскіх дысертацый, звязаных тэматычна з літаратурнай творчасцю на старонках „Нівы“. Кожны з іх, пазнаёміўшыся глыбей з літаратурнымі творамі, прыходзіў да вываду, што ён не ў стане прааналізаваць усю літаратуру таму, што яе ў „Ніве“ вельмі многа. З гэтай прычыны магістранты бралі наогул нейкі літаратурны від, напрыклад, паэзію, або абмяжоўваліся адным дзесяцігоддзем „Нівы“. З гэтага багацця літаратуры на старонках „Нівы“ трэба толькі цешыцца і ім ганарыцца. „Ніва“, як вядома, была на працягу некалькіх гадоў арганізацыйнай мацці літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ і толькі пазней аб'яднанне звязалася арганізацыйна з Галоўным праўленнем БГКТ. Так ці інакш, факт, што сёння ўжо восем „белавежцаў“ прынята ў Саюз польскіх . пісьменнікаў, сваімі карэннямі ўрастае ў глебу, створаную „Нівай“. І калі б больш як трыццаць гадоў таму назад „Ніва“, (а гаворачы канкрэтней Г. Валкавыцкі) не ўвяла на старонкі тыднёвіка з такой смеласцю беларускае літаратурнае слова, дык напэўна дасягненні „Белавежы“ былі б намнога меншыя, чым яны ёсць сёння. Зрэшты, хто ведае, быць можа, што без гэтай смеласці Валкавыцкага „Белавежы“ не было б увогуле.

Чаму раблю такі вялікі націск на ролю „Нівы“ ў развіцці беларускага літаратурнага руху ў Польшчы? Таму, што рух гэты ўжо, на маю думку стаў літаратурным фактам. Ніколі ў гісторыі Польшчы, Беларусі і Расіі, незалежна, як доўга Беласточчына была ў іх уладанні, не было на Беласточчыне такога дынамічнага літаратурнага руху, як наш сённяшні, беларускі. Дык як жа не ганарыцца гэтым фактам? А ці ж не павінны мы залічыць да вялікіх дасягненняў і аграмадную колькасць сустрэч, праведзеных „белавежцамі“?! Колькасць гэта даўно перакрочыла тры тысячы. Адзін толькі „белавежац“ Віктар Швед сустрэўся з жыхарамі Беласточчыны не меней 1200 разоў! І хаця гэты момант непасрэдна з „Нівай“ не звязаны, то ўсё ж такі і „Ніва“ ў ім мае

(Працяг на стар. 7)

# НОЧ КУПАЛЫ — НОЧ ЦУДАЎ

Ноч. Лес. Агонь. Галовы соснаў гінуць у цёмным небе. Вогнішча з трэскам выкідвае іскры. Добра гараць бярозавыя дровы. Вакол цесным і густым колам стаяць і сядзяць людзі.

Ноч Купалы ва ўрочышчы Борык, у адным кіламетры ад Гарадка. Настрой узнёслы, таямнічы. Толькі чакаць, як стануць паяўляцца цуды гэтай ночы, а Лёнік Тарасэвіч ды Алесь Карпюк, лясныя тутэйшыя жыхары, прынясуць папараць-кветку і падораць Госі Мушынскай (унучка Ніны Мушынскай) і яе сяброўкам. А можа папараць-кветку ў Гарадку знойдзе Юрка Ляшчынскі? Адным словам — беларускія студэнты прысутнічаюць грамадой на гэтай беластоцка-гарадоцкай купальскай ночы. Іх пошукі не спыняюцца.

Ужо трэці год Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку пачаў арганізоўваць ночы Купалы, выклікаючы з забыцця легіён беларускіх істот, якія ў часах сівой глыбокай нашай даўніны стварылі гэтае важнае, мо нават найважнейшае народнае свята. Як жа плённая аказалася ініцыятыва Валянціны Ласкевіч — старшыні Гарадскога аддзела! Знайшліся наследнікі ўсюды. У гэтым годзе Беластоцкі аддзел разам з Гмінным аддзелам БГКТ у Гарадку арганізавалі трэцюю ўжо сваю ноч Купалы ў Борыку.

Як заўсёды, самую ўрачыстасць купальскай ночы папярэдзілі канцэрты калектываў. Беластоцкі хор даў канцэрт у вёсцы Калодна, а Гайнаўскі хор меў выступіць у Гарадку. На жаль, Гайнаўка ў Гарадок не прыехала і трэба было звяртаць людзям грошы за білеты. А прадалі іх больш за 300.

Гэтак крыху нервова пачалася гэтая купальская ноч. Зразумела, што і ў Борыку ля вогнішча адчувалася адсутнасць дасканалага гайнаўскага хору. Бяднейшая была праграма гэтай імпрэзы.

Але спявалі цэлую купальскую ноч беластоцкі і гарадоцкі калектывы. Ніна Мушынская са сваімі жанчынамі падрыхтавала спецыяльны сцэнарый на Купалле, „на святое“. Паявілася Купалінка (Тамара Бурачэўская), уся ў белым, лёгкая істота з беларускай легенды, з зялёнымі галінкамі папараці. Цыганка (Ніна Мушынская) чыніла замовы ад ведзьмаў, якія адбіраюць малако ў кароў і варажыла маладым будучыню. Як віхор паяўлялася і пралятала вакол вогнішча ведзьма на бярозавай мятле (Люба Гаўрылюк), вельмі ўдалая роля і характарызацыя. Ліліся купальскія песні.

Не замнога на гэты раз знайшлося адважных скакаць праз агонь. Затое вельмі здаровае і поўнае цудаў было шэсце з вянкамі на рэчку Супрасль, хіба са два кіламетры, праз лес і праз луг. Ішлі ў цішыні, доўгім карагодам, угледаючыся ў папараць-кветку... (Плысці вянкі па лянівай Супраслі не хацелі і хлопцы ўскочылі ў адзенні, папіхвалі іх). Дыхалася поўнымі грудзьмі і ўсё больш ахутвала ўсіх ноч цудаў: здавалася вось-вось убачыш сваю папараць-кветку...

Да раніцы вакол вогнішча частаваліся людзі і спявалі, спявалі, як то беларусы — прыгожа, меладычна, магутна. Ноч купальская кароткая, світанне хутка сядае на вершаліны дрэў.

Хто знайшоў папараць-кветку ў Борыку?..

Для арганізатараў і зацікаўленых купальскай ноччу падам цяпер у пунктах прыблізны сцэнарый — галоўныя элементы традыцыі, якія можна выкарыстаць, каб Купалле праходзіла багацей, жывей.

У дзень жанчыны і дзяўчаты збіраюць зёлкі і кветкі, плятуць вянкі. Выбіраюць месца на ўзлеску, пад высокім дрэвам, на абрыве ракі, на высокім беразе, на выгане.

На выбранае месца ўвечары ідуць са спевам. Распальваюць вогнішча.

Частуюцца. Водзяць карагоды вакол агню, скачуць праз агонь.

Дзяўчаты і хлопцы перакідваюцца праз агонь вянкамі. Старыя расказваюць страшныя здарэнні пра ведзьмаў, чарцей, пра скарбы і русалкі. (У гэты момант могуць паяўляцца і рабіць сваю дрэнную работу ведзьмы, русалкі, чэрці).

Расказ або верш, або песні пра папараць-кветку.

Варажба пра замужжа. Перасцярогі ад ведзьмаў, якія забіраюць малако ў кароў.

Бліжэй світання ідуць грамадою купацца, качаюцца па расе (карыснае для здароўя), глядзяць, як „іграе“ сонца. (Можна тут выцягваць рукі ўверх, спяваць, дэкламаваць або проста імправізаваць мову).

Можна адыгрываць размову дрэў і звяроў у гэтую купальскую ноч, бо паводле паданняў у гэтую ноч яны размаўляюць паміж сабой і ходзяць.

У беларускіх купальскіх песнях пануе поўная гармонія, касмічны лад гэтых паняццяў. Вось прыклад са старой песні.

Ішла Купала сялом, сялом,  
Закрыўшы вочкі пяром. пяром,  
На Йвана Купала.

Закрыўшы вочкі пяром, пяром,  
Вітала хлопцаў чалом, чалом,  
На Йвана Купала.

Пляла вяночкі шаўком, шаўком,  
Слыла Купалка цяплом, дабром,  
На Йвана Купала.

**Вера Валкавыцкая**

## УВАГА!

Увага! Праз тыдзень у „Ніве“ — расклад руху цягнікоў з Бельска.

Нашых дарагіх — славутую спявачку і актывіста БГКТ —
**Любу і Валодзю Гаўрылюкоў**
віншуюць з
25-годдзем Іхняга шлюбу
і зычаць Ім далейшых многіх
год у здароўі і шчасці
дзеці,зяць, унук,
Беластоцкі аддзел БГКТ
і „Ніва“

## АДГАЛОСКІ

### НАШТО НЯБОЖЧЫКУ СВАБОДА?

„На мяжы“ Алеся Барскага я заўсёды чытаю. Ягонае „Аб працавітасці“ ў дваццаць трэцяй „Ніве“ таксама прачытаў. Ён робіць з сябе гультая і вельмі магчыма, што гэта няпраўда... Бо ж іншыя хваляць, нават ангельцы з амерыканцамі, а яны ж працавітыя нацыі. Піша, што вершаў ужо напісаў больш за паўтысячы за кароткі час, як зразумеў я. Ну, з гэтым пісаннем, так канвеерным, паэзіі сваёй, то ён можа і перабаршчыў, бо адразу думка лезе: а чаго яны варты? Вершы пісаць — гэта не бульбу садзіць ці пасвісцёлы стругаць. Гэта зусім іншы ўзровень чалавечай працы. Ёсць у рускай літаратуры Грыбаедаў як аўтар аднае толькі драмы, „Горе от ума“, але ніхто разумны не заменіць яго на па-дурному працавітага аўтара цяперашняга, які сыпле творамі, як груша дзічкамі. Грыбаедаў адным сваім творам стварыў цэлую эпоху ў расійскай драматургіі. Вось як бывае, так хачу даказаць да выказвання Барскага.

Барскі — і вучоны, і паэт, і дзеяч, і луг бацькаў косіць, і поле абсявае, і стадолу ставіць... Божа, чаго ён толькі не робіць? Зайздросная жыццяздольнасць! Барскі то ў Амерыку, то ў Савецкі Саюз ездзіць, і нашымі тут, беларускімі, праблемамі займаецца, піша пра іх і піша. Ну, у чым ён не працавіты? Дай Божа такіх больш!

Цяжкая праца нашага гаспадара даўно ў ганьбе вялікай. І нічога не дапамагае прыклад Барскага за плугам у Бандарах, ці даўней — графа Льва Талстога з сахою на палетках сваёй Яснай Паляны. Барскі — патрыёт і зямлі, і мовы зямлі нашай. А яе, мову беларускую, як глумілі, так і надалей глумяць! Розніца ў гэтым такая ўсяго, што калісьці глум над ёю ўчынялі тыя, хто панаваў над беларусамі, а цяпер самі беларусы робяць яе нябожчыцай. Свабода ўжо немалая для беларушчыны, але калі яна сама сябе дарэзвае, дык пытанне: нашто нябожчыку свабода, га? Тым не менш Барскі мае рацыю, калі я чытаю ў ягонай „На мяжы“, што — гавары сабе ты па-беларуску колькі хочаш (праўда, яшчэ не дзе хочаш!), і вучы сваіх дзяцей, дзяржаўны скарб нават для пяці маленькіх беларусцаў гатоў аплачваць настаўніка беларускай мовы, і так далей. Аднак. у маім іранічным пытанні ёсць і нейкая праўда, а праўда, як вядома, рэдка бывае прыемнай.

Лёс беларускай мовы вельмі падобны на лёс нашай сельскай гаспадаркі. Два пакаленні назад у гаспадара адбівалі ахвоту быць гаспадаром. І адбілі! А цяпер даюць гаспадару свабоду, прынамсі афіцыйна,бо на месцы. ў гміне, не так ружова. Але што з тае свабоды, калі яе ўжо не вельмі каму ёсць і даваць, трохі маладых гаспадарскіх хлопцаў сям-там засталося па вёсках, затое гаспадарскіх дзяўчат, лічы, аніводнай! Вось табе і свабода нябожчыку, гаворачы ў пераносным сэнсе. Кастусь Пятэльскі на з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“ надзвычай трапна вызначыў час пачатку паміран-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 338

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ПАВАЖАНАЯ „НІВА"!

Шчырае для Вас прывітанне з Беларусі, ад чытача ў другім пакаленні! Калі майму бацьку было менш, чымся мне зараз гадоў, ён працаваў на Поўначы, у Архангельшчыне, і туды ішла яму „Ніва". Цяпер вось яе чытаю я. Тыя, трыццацігадовай даўнасці, нумары ледзь трымаюцца, бо дзе яны толькі не былі і ўсё ж захаваліся!

Ну, трэба, зрэшты, пра сябе. Найменнем я — Славамір, прозвішча па бацьку — Адамовіч, па маці — Чантарыцкі. Вучуся на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пішу вершы. Дагэтуль давялося пабадзяцца, паспытаць усякага хлеба. Але ўвесь гэты час як бы хто нявідны вёў мяне праз усе застаўкі, каб нарэшце знайсці, спаткаць тое, што сваё...

Хачу вам сказаць, выказаць шчырую падзяку за вашу працу, за „Ніву", за тыя календары 60-х гадоў і за зборнік „Белавежа", якія маю пры сабе, як добрую памятку аб вашае рупнасці. Хачу вам пажадаць і здароўя і поспехаў.

І дасылаю два свае вершы.

**Славамір Адамовіч, г. Мінск**

**Ад Рэдакцыі:** Дзякуем. Просім прысылаць нам часцей і вершы, і допісы і лісты...

* ✲ *

Таксама ўсё квітнее вішня
й бэз,
і гордыя асверы крэсляць неба.
Там багавым аблокам не паспець
ад воч людскіх схаваць
запрэжку Фэба.

Таксама ўсё шархучая трава,
і шэры чмель, і пыл, і скрып
атосы.
І ровар, нахілёны да слупа,
і я бягу, расхрыстаны і босы.

О вобразы крывіцкія, о свет!
І любасць над усім без атачэння.
Як хутка ападае белы цвет
і марудна спее плод праменны.

* ✲ *

Не спяшай, мая рыжая векша,
на чужое плячо не спяшай.
Гэта ж я напаткаў цябе першы,
гэта ж мой ты прагнала адчай.

Будзе шэрае веча гарланіць,
меднагорлыя будуць крычаць:
разлучыць і свабоды пазбавіць!
Хай на столь у вязніцы
глядзяць.

Толькі ты, мая рыжая векша,
не пужайся людской дурнаты.
Сціхне веча, насупіцца вечар
і засвеціцца серп залаты.

Рог затрубіць, гукне акарына,
хваля вольнасці грудзі спаўе.
Першы твой і апошні
мужчына —
прад табой на калені ўпадзе.

**Славамір Адамовіч**

**Юрка Баена**

* ✲ *

Адбіўся я ад вас, крыніцы,
адплыў ад добрай хвалі
вясной кваяцістай,
у спеўным маі.

Сёння ўжо восенню адзеты
жыву ў халоднай,
сумнай стаі.

А там вятры гудуць,
а там надзеі гаснуць...

І я стаю,
успамінаю,
плачу...

## ПРАДВЕСНЕ

Калі ізноў па тварах
сонца вас ударыць
і ўсё як ледавік
сплыве на поўнач

на лузе астанецца
чырвоная пальчатка

Тут была зіма
і снег -
Тут быў мароз
і холад
Тут яшчэ ўчора
хтось пакінуў след —
ціхіх лыжаў бег

## САМОТНАСЦЬ І НАДЗЕЯ

Сяджу я за сталом
І стомленым зрокам
Гляджу ў аконца.

А там па дарозе
Мчыцца белая конніца
Мінулых стагоддзяў.

Раптам бачу: усе ездакі
Спынілі коней,
Ідуць
Будучыні насупраць.

Ох, што я скажу?
Што я скажу
Ім на прывітанне?..

Нічога. Гарох ды капуста
Замкнулі мне вусны.

Тут снегапад наўкола
Зіму пасоўвае.

Тут сум і холад
Стаяць ля парога.

...А я крычу! Голасам сэрца
крычу! —
І крык, быццам плач,
Нясецца над светам...
А я крычу! Сумленнем крычу!
І крык, быццам спеў,
Адзываецца рэхам...

Крык гэты, як боль
І сардэчная вера.
Шматгалосае рэха —
Мая надзея!

**Ю. Баена**

## ЭЛЕГІЯ БЕЛАРУСКАЯ

Ціха ты, Еўропа! — нацыя мая родная ўжо пры смерці, мову ёй адымае. І не трубі па ратунак, захварэла яна па-мужыцку невылечна. Няхай спакойна на той свет адыдзе, без пакутаў дарэмных, сябе і іншых не мучачы лішне. Даволі і так пажыла, ледзь з духам нарадзіўшыся, жыццё сваё пракаратаўшы сяктак, з горам ды з бядою. Як неўдалота вясковы, яна найбольш сама сябе заядала; беднаму ўсё вецер у вочы, а багатаму чорт дзяцей калыша.

Нацыя беларуская, ты, як бабуленька непатрэбная, калі ўнукаў пагадавала, — дабрынь твая перастала даваць карысць. Задобрай ты была, занадта спагаднай і падатлівай у новы час, у які шануюць таго толькі, каго баяцца. Божамаці народаў ты, Беларусь, без права на быт рэальны, а ўсяго на легенду паклонную. Ікона не дае хлеба, таму не ўсе да яе моляцца.

Успамінаць Цябе будуць цёплым словам, як кожнага, каму лёс выпаў скупы, незайздросны. Крыўда, аднак, не мінае такіх аж да канца, спасылаючы забыццё сусветнае.

Калі напэўна што пастаяннае і векапомнае, дык гэта — зло.

**Сакрат Яновіч**
снежань '86 — студзень '87.



**Адна з прац Л. Тарасэвіча, паказаных на выстаўцы ў Венецыі. Восень 1985. Фота Т. Рольке.**

**Віктар Швед**

## КОСЦІК ЕДЗЕ Ў ГОСЦІ

Улетку ў горад
З вёскі Рагулі
Паехаў скорым
Унук з бабуляй.

Раптам пытае
Яго жанчына:
— Куды спяшаеш,
Малы хлапчына?

Адрэзаў Косцік
Ёй зухавата:
—Едзем у госці
Да мамы і таты.

## ЯК ЕЗДЗІЎ ТАТА НЕЖАНАТЫ

Мама вучыць, як павінен
Тата кіраваць машынай.

Слухае маленькі Федзя,
Што ў машыне ззаду едзе.

Раптам ён неспадзявана
Тату задае пытанне:

— Хто ж табе падказваў, тата,
Калі быў ты нежанаты?

## ХАТНЯЕ ЗАДАННЕ

Запытаў сыночка тата:
— Што вам задалі дахаты?

Быў адказ такі малога:
— Не зададзена нічога.

— Шкада, — круціць бацька
носам, —
Тады мушу мыць я посуд.

## ТАМ ЖЫВУЦЬ БАБУЛІ І ДЗЯДУЛІ

Настаўнік гарадское школы
Пытае: — Дарагія дзеткі,
Хто час канікулаў вясёлых
Правёў у вёсцы, на палетках?

Азваўся гаваркі Сярожа:
— У вёску я заўсёды еду.
Там так цікава і прыгожа,
Ды можна там папоўніць веды.

Жыве там усяго багата:
Коні, каровы, пчолы ў вуллях.
Там у старых ашэпэлых хатах
Жывуць бабулі і дзядулі.

## ЁСЦЬ МАШЫНА, ЗАМЕСТ СЫНА

— Калі купілі мы ўжо
„ф'ята", —
Тлумачылі бацькі Пятру, —
Можам купіць табе ўжо брата
Або маленькую сястру.

— Не будзем мець такой
раскошы, —
Адказвае на гэта сын.
— Цяпер, дык пойдуць вашы
грошы
На ўсе запчасткі і бензін.

**Віктар Швед**

 

(Працяг са стар. 2)




ня вёскі і ўсяго, што з ёю звязана: гэта той пасляваенны перыяд, калі ад гаспадара толькі бралі, нічога яму ўзамен не даючы! Абавязковыя пастаўкі, абавязковыя шарваркі, абавязковыя, абавязковыя, а па гарадах і тады нічога не было абавязковага, і кватэры задарма давалі, і „вчасы“, і што хочаш. Ну, дык чаму ж не драпануць было моладзі вясковай у гарады? Драпанула моладзь, гэта значыць — прапала будучыня вёскі. І яе ўжо не вернеш. Падобным чынам адносіліся і да беларускай культурнай дзейнасці. Хто гэта калі мог падумаць, што настане такі час, калі пра ўсё можна будзе па-праўдзе гаварыць і пісаць!? Настаў, але ці не запозна?

Барскі слушна заклікае да палемічнасці. Да дэмакратызму. Дэмакратызм — гэта таксама права і на глупства. Дэмакратызм — гэта прынамсі дзве думкі на адну тэму ці праблему. Калі дапушчана толькі адна думка, а другая — не, дык няма чаго вачэй мыліць дэмакратызмам. Гэта кпіна з дэмакратыі. Пустаслоўе! А палемічнасць? Калі яна прымітыўная, то і дэмакратыя наша будзе прымітыўнай, на ўзроўні дзікіх плямёнаў ці абшчыннага ладу. Нізкі ўзровень нашай палемічнасці — гэта наша бяда. Замалая дыскусійнасць „Нівы“. Без дыскусіі, палемікі, думка не расце, а марнее, пераўтвараецца ў абрад. Палеміку часта мы разумеем, як сварку якую, капанне ямы адзін аднаму. Гэта ж непаразуменне! Палеміка гэта не тыцканне адзін аднаму дулі пад нос, гэта барацьба мазгамі, а не кулакамі, барацьба аргументамі, рацыямі, інтэлігентнасцю і лепшым веданнем свету ды чалавека з яго свядомымі і несвядомымі праблемамі, няшчасцямі, пра якія іншы раз і сам не ведае, не бачыць і не заўважае, але іншы — і бачыць, і заўважае.

Часамі Барскі залішне дазваляе сабе супроць Бога. Гэта мяне абражае, бо я веру бязмежна ў Бога, хоць не так даўно быў яшчэ атэістам. Крытыка рэлігіі — гэта не тое самае, што абсмейванне яе. Я не абсмейваю атэізму Барскага, — абсмяяць можна ўсё і ўсіх! — шаную яго, дык няхай ён адносіцца да маіх поглядаў гэтак жа. Калі хочаш, каб цябе шанавалі, дык шануй іншых так, як самога сябе.

**Мікалай Панфілюк**

**ХТО ТУТ ГУЛЬТАЙ, МАХНАЦКІ?!**

Калі я прачытаў у „Ніве“ ад 24 мая артыкул М. Махнацкага „Рабіць на гультаёў“, у маім „беларускім чэрапе“ пачалі поўзаць розныя думкі. Махнацкі піша, што мы — жабракі Еўропы, валачэмся ў хвасце за народамі, таму, што ў нас бракуе інтэлігентных людзей і інжынераў добрых, а не толькі з дыпломамі невядома як вытаргаванымі... Падае ён прыклад Японіі, у якой ужо думаюць нават пра ўсенародны рэферэндум наконт увядзення абавязковай вышэйшай школы для ўсіх.

(Працяг на стар. 5)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая камяніца на вул. Сабескага (Баяры) у Беластоку. Мал. У. Петрука.*




Быў спякотны пачатак ліпеня. Разамлелыя на сонцы людзі сонна і абыякава спаглядалі на надрэчныя вербы, на нейкую лодку, што плыла па рацэ, на ваду — то чыстую, то памутнеўшую, калі нехта ўскалыхнуў яе.

**Гадзіна 16.15.** Над ракой паяўляецца мітуслівая грамадка дзетак з дзвюма выхавацельніцамі. Чуваць каманда: „Распранацца!“ Дзеткі жвавенька сцягваюць свае манаткі і старанна складаюць іх у горбачку. Прагучала другая каманда: „Купацца!“, і старэйшая выхавацельніца шлёпнула па задніцы аднаму з дзяцей.

Спачатку мне здалося, што гэта прыйшло купацца прадшколле. Нешта аднак мяне насцярожыла. Дзеці неяк няздорава шалелі, пырскаліся адно на другое, абліваліся вадой з вядзерцаў, якія некаторыя дзеці мелі ў руках. Старэйшая выхавацельніца сядзела на беразе і камандавала. Малодшая ж, цяжарная, увайшла з дзецьмі ў ваду. З вялікім жыватом, яна не распраналася і так стаяла ў вадзе ў сукенцы, пільнуючы дзетак. Спакойным тонам тлумачыла ім, каб далёка не ішлі, каб усе купаліся, каб не пырскаліся і не абліваліся.

**Гадзіна 16.40.** З берага гучыць каманда: „Выходзіць! Выходзіць!“

Калі дзеткі выйшлі з вады, я палічыла: было іх 11. І ўсе ва ўзросце 2-6 гадоў. Былі яны, аднак, бледныя, кволенькія ў параўнанні з іншымі дзецьмі і амаль усе былі апрануты ў нейкія бясколерныя трусікі. І тады мяне прашыла думка: „З дзіцячага дома!“ Толькі адзін хлопчык вылучаўся з групы. Быў ён таўсцейшы за іншых і крыху больш задаволены сабой.

„Бегаць! Бегаць!“ — прагучала новая каманда старэйшай пані, і дзеткі, быццам тыя вязні, пачалі бегаць адно за другім па траве.

Дзеці бегалі, а выхавацельніцы заняліся размовай. Старэйшая з іх што і раз давала каторамусь дзіцяці грукача ў плечы або па задніцы. „Афэрма ты! Чучала гарохавае! Куды ты пабег?“, — пачула я раптам. Я адвярнулася і глянула, што гэта за чучала там такое. Бьў гэта малюсенькі хлапчучок, на выгляд гадочкі 2, бландзінчык з упаўшымі грудзьмі. Ён вінавата вярнуўся ў грамадку дзяцей і зноў стаў бегаць разам з усімі.

Цяжарная выхавацельніца гладзіць па доўгіх валасках 4-5-гадовую дзяўчынку: „Прыгожая Мартуся, прыгожая, а як цудна загарэла...“

Чуецца голас старэйшай: „Зараз вазьму ды ўтаплю і будзе парадак!“ Праз пяць мінут: „Зараз вазьму за нагу і павешу! Манапольныя вы сіроткі! Так, так, тут сірат няма, бацькі ва ўсіх ёсць“. — дадала яна, быццам апраўдваючыся перад людзьмі.

**Гадзіна 17.10.** Пяцёрка дзяцей незаўважальна адлучаецца ўбок і заядла пачынае мясіць нагамі вялізныя бліны каровінага гною. Адганяю дзяцей, але яны не рэагуюць. Выхавацельніцы заняты размовай. Нарэшце падыходжу да іх і кажу, каб зрабілі з дзецьмі парадак. Гучыць каманда: „У ваду! Мыць пупы і ногі! Мый ногі — усё ў брудзе, малпа ты, халерная малпа!“

(Працяг са стар. 1)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

### ПАД ПАРАСОНАМ ГІСТОРЫІ

універсітэта... У Полацку кожны год праводзяцца Скарынінскія літаратурныя чытанні, у час якіх ля помніка першадрукара, на плошчы яго імя, выступаюць паэты і празаікі, ладзіцца кірмаш кніжак, спяваюць самадзейнікі, дэманструецца народнае мастацтва...

Ад помніка доктару Скарыне паехалі мы ў найстарэйшую частку горада Полацка, на Замчышча. Так гэтае месца назваў мой праваднік і сябра — Уладзімір Арлоў, гісторык па адукацыі і таленавіты малады пісьменнік па прызванню. Найперш павёў ён мяне ў Сафійскі сабор.

— Гэта выдатны помнік XII-XVIII стагоддзяў, — заявіў мой праваднік. Я крыху здзівіўся, што гэты храм так доўга будаваўся, але У. Арлоў паясніў мне, што першым яго будаўніком (а хутчэй, заказчыкам) быў князь Усяслаў Чарадзей, у гадах 1044-1066. Археолагі лічаць, што Сафійскі сабор быў адным з першых каменных храмаў усходняга абраду, пабудаваным на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Выконваў ён не толькі рэлігійную, але і палітычна-культурную ролі, падобныя да тых, якія выпалі на долю „Сафійкам“ у Кіеве і ў Ноўгарадзе.

— Князь Усяслаў Чарадзей, — расказваў У. Арлоў, — загадаў будаваць гэтую „Сафійку“ паводле візантыйскай традыцыі. Меў ён пяць або сем галовак. Дакладна цяпер гэта невядома.

На жаль, ад першапачатковага выгляду полацкай „Сафійкі“ засталіся толькі фрагменты муру. У палавіне XVIII ст., калі на Беларусі ўжо ўзмоцнілася унія, яго перабудавалі ў стылі віленскага барока. І ў гэтакім выглядзе гэты храм дайшоў да нашага часу. Цяпер яго дбайна адрэстаўравалі і стаўся ён храмам музыкі. У ім наладжваюцца арганныя канцэрты, якія здабылі шырокае прызнанне ў цэлым Савецкім Саюзе. Выступаюць тут арганісты з Масквы, Мінска, Прыбалтыкі, а таксама і замежныя.

Наведалі мы яшчэ адзін полацкі храм, які ўпрыгожвае стары Полацк. Гэта Богаяўленская царква. Яна таксама вельмі ж дбайна адноўлена і цяпер у яе прасторным нутры памяшчаецца карцінная галерэя...

Унізе, за абрывістым берагам спакойна нясла свае воды Заходняя Дзвіна. Нейкія рабочыя корпаліся ля гэтай Богаяўленскай царквы.

— Тут будзе створаны археалагічны заказнік, — паінфармаваў мяне Уладзімір Арлоў і параіў, каб я прыгледзеўся да аднаго аграмаднага валуна.

— Гэта Барысаў камень, — паясніў сябар. — Ён — помнік беларускай эпіграфікі XII ст., звязаны з імем князя Барыса, сына Усяслава Чарадзея.

— Чаму ён тут? — пацікавіўся я. — То ж вядома па падручніках гісторыі, што Барысаў ка-



 

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

### НЕПАТРЭБНЫ ЛЁС МАРЧЫКА

Хачу расказаць пра свайго брата Марка. Яму ўсяго дванаццаць год, але ён паспеў такое начаўпсці, што хапіла б таго двум дарослым крымінальнікам. Ужо ў чатыры гадочкі свайго жыцця паказаў ён сябе са зладзейскім талентам. Можа крыху вінаватая ў тым бабуля, якая цацкалася з ім, часта няслушна абараняла яго ад матчыных пакаранняў, а малому таго і трэба!... Дабіраўся да чужое хаты, шыбу вымаў з вакна. Бабуля абараніла Марчыка, тады ён узяўся грошы красці, напачатак тысячу злоты. Таксама ў суседа, але іншага. Маці зрабілася страшэнна брыдка, схапіла падшыванца за каўнер, але бабуся аказалася дужэйшай за... матку.

— Не дам біць! — крычала старая, зусім не разумеючы таго, што гадуе злодзея.

Марчык падрос настолькі, што і ў школу пайшоў. Ого, ён там разгарнуўся са сваім талентам! Хутка адной дзяўчынцы ровар прапаў. Адразу было вядома матцы, куды ён прапаў. Мала, што краў. Махляваць падвучыўся.

— Чый гэта ровар у цябе, Марчык? — пытаецца маці і аж рука ёй свярбіць, каб угрэць па яго сабачэючай скуры.

— А-а, гэта хтосьці каля нашай хаты пакінуў, то я яго на падворак вяду, — адказвае малы, вокам не маргнуўшы.

— Адвядзі таму, у каго ўзяў! — камандуе маці.

— А каму? — збівае ён яе спанталыку.

Пасля высветлілася, што гэта быў ровар Ёлі, але Марчык падставіў яго пад хату Агнешкі. От, зараза!

Неўзабаве маці Марчыка даведалася, што яе сын падушыў Лёнікавай жонцы кураняты. І не дапытацца было ў яго, чаму ён гэтак зрабіў-учыніў?! Для дзіцячага бандыцтва ці ад дурноты?

Настала восень, калі нехта ўбачыў, як Марчык дыміў папяроскаю. І смешна, і страшна: ледзь ад зямлі адрос, а ўжо з папяросінаю ў роціку ён.

— А што, забаронена?! — выскаліўся ён на матку.

Матчыны нервы не вытрымалі, налупіць яна Марчыка свайго, а пасля бабуля скача біцца да тае ж маткі. Пекла ў хаце і безгалоўе! У другім класе Марчык перастаў вучыцца нарыхтык, швэндаўся па вёсцы да цямна, краў, курыў, буяніў. Сябрукоў меў, падобных на сябе.

Я спрабавала дапамагаць матцы Марчыка, але сама хутка замуж пайшла, і то так, што муж трымаў мяне, усё роўна як пад канвоем якім: на кожную дробязь, нават што купіць, пайсці куды — трэба было яго згоды. Як гэта ніколі невядома, куды чалавек ступіць нагою ў сваім жыцці! Муж мой, вядома, дачуўся пра ўчынкі Марчыка, майго брата, і зрабіў з гэтага такія высновы, каб я з нікім са сваёй радзіны не кантактавалася. Турма і годзе...

Памерла бабуля Марчыка. Усе мы пайшлі хаваць яе. У гэты дзень міліцыя арыштавала Марчыка. Выявілася, што ён і яшчэ адзін абакралі хутар, адзенне пабралі і нейкія медалі (думалі, што залатыя яны). Накрадзенае закапалі пад хвойкай. Калі выблытаўся ён з гэтае пакражы, пачаў выносіць сёе-тое з хаты сваёй, матчынае. І прадаваў недзе за сабачыя грошы. Яшчэ прыходзіў начаваць, але ўжо заявіў, што школа і навука яму непатрэбныя. А яму ж яшчэ і дзесяці год не было, Божа ты мой!

Быў ён ужо на простай дарозе да славы крадзежніка і лайдака. У маткі не жыў, абдурыў якіхсьці людзей, якія прынялі яго да сябе. Неўзабаве абакраў сваіх дабрадзеяў, знік далёка, і знайшоў новых дурняў сабе. І міліцыі даваў занятак, час ад часу цягалі яго на допыты, нават ужо ведалі, у чым ён спецыялізуецца як злодзей.

Куратар злачынцаў, Галіна Кічко, вырашыла накіраваць Марчыка ў папраўчы дом. Пачалася судовая валакатня. У мінулую восень суд пазбавіў матку правоў да Марчыка, а затым судзілі яго за пакражы. А вядома, што папраўчы дом, як турма, нікога не паправіць, не перавыхавае.

Часам думаю сабе: як гэта бывае — маці акуратная, бабуля да крайнасці добрая, людзі таксама да зла не намаўляюць. І на табе — вырас зладзюга, а чаго добрага, і бандыт! Загадка?! У гэтай загадцы выступаюць яшчэ і настаўнікі; маю я трохі жалю да іх. Яны як бы з палёгкаю дапамагалі уладам пазбыцца Марчыка, бо клопат з ім мелі вялікі. Маці плакала, але з настаўніц ніхто не засмуціўся. А гэта ж бяда не толькі маці, гэта бяда і педагогаў, і іх гэта вялікая няўдача, што з Марчыкам ўсё так завяршылася. Настаўнікі не абаранялі Марчыка, яны яго пазбыліся. І цяжка мне гэта прабачыць ім. Тым больш цяжка, што фармальна, у святле законаў, яны як бы ў парадку...

**Аўрора**

(Працяг са стар. 2)

### АБ „НІВЕ“

свой непасрэдны ўдзел, хаця б у форме рэгістратара-інфарматара аб гэтых сустрэчах.

Прызнаюся, не магу аб „Ніве“ думаць без узрушанасці. Яна мая, так як і мая беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы. Наколькі ж была б бяднейшая гісторыя Народнай Польшчы, не гаворачы ўжо аб гісторыі Беласточчыны, калі б не было ў ёй „Нівы“!

Калі задумоўваюся над роляй, значэннем, характарам „Нівы“, дык прыходжу да вываду, што можна іх выявіць у парадак-

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 6)




звычайных і надзвычайных. Ну, нашто іх нам аж столькі? А дактароў колькі медычныя акадэміі выпускаюць, у самім Беластоку штогод плойму, ды спрабуй хоць аднаго з іх сустрэць у вясковым асяродку здароўя — усе ў Беластоку адзін на адным, як тыя гусі, сядзяць па пяцёх у пакоі. На правінцыю выязджаюць толькі тыя, якіх заелі ў Беластоку, адагналі ад карыта, аказаліся яны менш баявітымі або недастаткова лайдацкімі? Нават Барскі ў сваёй хвальбе „Аб працавітасці“ прызнаецца, што час ад часу робіць ён святую зямельку, і лупцуе сам сябе, бы манах будыйскі, за тое, што гультаіна ён аднак! Барскі апісвае аднаго працавітага пісьменніка. Ну, працавіты, то і добра, падумаў я. Аж чытаю ў дваццаць другім нумары „Хлопскай дрогі“ гутарку з кіраўнічкай кнігарні ў Саколах на Ломжыншчыне, якая кажа: „Як жыву і працую тут, ніколі яшчэ не бачыла я столькі надрукаванага пісьменніцкага барахла, што цяпер!“ Кнігарня завалена кніжкамі, якіх ніхто не хоча купляць, бо гэта творчыя бракі. Тое ж убачыў я аднаго разу і ў тэлевізары сваім: паказалі цэнтральны кніжны склад у Варшаве, дзе кніжкі тыя горамі цэлымі кладуць ужо на падворышчы, брызентам прыкрыўшы ад дажджу і снегу. Гэта так званыя макулатурныя выданні, кніжкі пісьменнікаў, якія не павінны быць пісьменнікамі, і больш было б карысці ад іх, калі б, скажам, лес той ад сахані пачысцілі. І ў гэтыя непатрэбныя, слабыя з мастацкага боку кніжкі, укладзены мільёны і мільярды грошай. Чыіх грошай, пытаю? Пісьменнікаў? Не, ім і заплачана за барахлечу. Значыць: нашых грошай, народных, патрачана сабацы пад хвост.

**К. П.**

А Вітаўтавы атрады адразу ўсчалі атакі. Лучнікі нечакана абсыпалі дажджом стрэлаў крыжацкі абоз з гарматамі, конніца патурбавала крыло, што абходзіла Дарагічын, каб абкружыць крэпасць з усходу і поўдня. Пачаткова рыцары лічылі, што Вітаўт знаходзіцца ў крэпасці, і рашылі любым коштам здабыць яе ды схапіць нянавіднага „кейстутавага атожылка“. Але пасля вельмі неспакойнай ночы, калі Вітаўтавы воі не дазволілі ім нават вока заплюшчыць, здагадаліся яны, што сам князь асноўнай сваёй вайсковай сілай акружыў іх, пакінуўшы ў крэпасці толькі адмысловы гарнізон. Па сутнасці крыжакі апынуліся паміж двума агнямі.



Абаронцы крэпасці адчувалі сябе даволі ўпэўнена за яе моцнымі і дагледжанымі сценамі. І хоць непрыяцель валіў па іх з некалькіх гармат і засыпаў Крапасную гару запальнымі стрэламі, яны не заставаліся ў даўгу: цэльнымі стрэламі з арбалетаў вылаўлівалі тых у крыжацкай аблозе, хто неасцярожна наблізіўся да Крапасной гары. Таксама нападаючы звонку ўчасцілі свае ўдары: выбівалі коней і людзей. Наезнікі пачалі паводзіць сябе нерашуча, а калі даведаліся, што Бужскую крэпасць выбілі з іхняе аблогі Вітаўтавы войскі, якія толькі што пераправіліся з супрацьлеглага, левага берага Буга, тады — праз тыдзень стаяння пад Дарагічынскай крэпасцю — знялі з яе аблогу і рушылі на поўнач.

Вітаўт са сваімі палкамі кінуўся ўслед за імі, кусаючы і рвучы ворага, дзе толькі далося. Крыжакі спрытна ачысцілі густа заселенае парэчча Нурца, раздушыўшы прытым некалькі невялічкіх крэпасцей, пайшлі на Візну і далей — у Прусію. Вітаўтава Пагоня спадарожнічала ім аж да пераправы на Нарве. Там спрабавала адбіць ахвоту захопнікам на новае наведванне гэтых ваколіц. Аднак крыжакі асцерагаліся, хітра завязалі бой са сваімі праследавацелямі і без вялікіх страт пераправіліся праз рэчку. На гэтым закончылася іхняя няўдалая „рэйза“.

Вітаўтавы воі, вяртаючыся з пагоні ў свае сялібы, пацяшалі сябе тым, што ўсё ж не дазволілі ворагу зваяваць усяе Дарагічынскай зямлі. Уцалеўшае ад няволі ці смерці насельніцтва асцярожна пачало выходзіць са сваіх схованкаў і брацца за адбудову знішчожаных умацаванняў і жылля. Аднак многія руіны і папялішчы пуставалі — не стала іхніх папярэдніх насельнікаў.

Вітаўт, дакладна агледзеўшы сляды крыжацкай „рэйзы“ на яго ўладаннях і даўшы цівунам распараджэнні пра адбудову знішчажэнняў, падаўся ў Бярэсце, дзе чакала яго княгіня Анна Святаслаўна з іхнім адзіным дзіцём — дачкою Софіяй. Спяшаўся, хацеў на Каляду быць з імі, найбліжэйшымі для яго асобамі.

Адсвяткаваўшы Каляды, паімчаўся ён да бацькі ў адлеглыя Трокі. Кейстут ведаў пра крыжацкую „рэйзу“, але падрабязна выпытваў сына пра падзеі і знішчажэнні на Дарагічыншчыне. Неяк загадкава, не пазіраючы ў сынавы вочы, паківаў сівой галавою і нічога не згадаў пра Ягайлавы пагадненні з крыжакамі. Лічыў, мабыць, што час на тое яшчэ не паспеў.

**Мікола Гайдук**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### АДНОСІНЫ ДА ПАМЁРШЫХ

У раёне Орлі, людзі, якія ішлі ў пахавальным шэсці, не маглі глядзець у люстэрка. Мясцовыя жыхары верылі, што такі ўчынак выклікаў бы жаўцізну скуры на твары. Нельга было, таксама, карыстацца грэбенем, бо валасы перасталі б расці і праз нейкі час выпалі б. У вёсцы Крывяцічы, якая належыць да Арлянскай гміны, у часе хаўтурнага шэсця будзілі ўсіх спячых, у тым ліку таксама і малых дзяцей. Можна было адступіць ад гэтага захаду толькі тады, калі пры спячым быў паложаны нож. Патрэба абуджэння ўсіх была выклікана перакананнем у тым, што неабуджаны чалавек мог бы ўвогуле не прачнуцца. Паложаны пры спячым чалавеку нож бараніў бы яго ад смерці.

Калі хаўтурнае шэсце напаткала па дарозе жанчыну, дык усе гаварылі, што першай асобай, якая зноў памрэ ў вёсцы, будзе жанчына, а калі сустрэтым быў мужчына, дык ён прадказваў смерць мужчыны.

Грымаса болю на твары нябожчыка трактуецца жывымі як доказ яго незадаволенасці з прычыны адыходу з гэтага свету. Усмешка сведчыць аб тым, што ён вельмі задаволены адыходам на другі свет. Добрае надвор'е ў дзень пахавання нябожчыка з'яўляецца таксама доказам таго, што ён задаволены перспектывай замагільнага жыцця.

Многія старэйшыя жыхары даказваюць, што ў дзень пахавання варожак, ведзьмаў, чмутароў заўсёды бывае вельмі дрэнная пагода: „Бо то вядомо, чэрці вельмі цешацца, што свайго чалавека ў пекла хватаюць".

У мінулым нябожчыкаў везлі ў царкву ў адкрытых трунах. Быць можа, што маем тут дачыненне таксама з уплывам каталіцкай абраднасці, якая не прадбачвае адкрывання труны з памёршым.

У мінулым самагубцаў хавалі без удзелу царквы і духоўных. Найстарэйшыя інфарматары з усходняй Беласточчыны лічаць, што самагубная смерць з'яўляецца вынікам намовы д'ябла. У сувязі з гэтым царква не мае права прымаць удзелу ў акце, выкліканым сатанічнымі сіламі. Жыхарка вёскі Міклашэва Люба Семяняка выказваецца на гэту тэму наступным чынам: „Там, дзе чорт умяшаўся, Бог не мае што рабіці. Жыцце гэто дар Божы і толькі Бог можэ яго ў чалавека забраці. А калі хтось забраў яго сам сабе, то значыт: паслухаў ні Бога, а чорта".

У мінулым самагубцаў хавалі па-за межамі могілак. Аднак у апошнія часы звычай гэты знік з пахавальнай практыкі, і самагубцаў хаваюць на могілках. У многіх вёсках прыводзяць прыклады, якія сведчаць аб тым, што духоўныя выконваюць рытуальныя рэлігійныя паслугі пры самагубцах.

**А. Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 7)

### АБ „НІВЕ"

сальным афарызме. Афарызм гэты павінен гучаць: „Ніва" — гэта наша маці і наша дачка. Думаю, што так могуць сказаць не толькі тыя, хто фармулюе характар „Нівы", але і кожны з чытачоў. Маці, бо яна нас „нарадзіла" як пісьменнікаў і публіцыстаў, дачка — таму, што мы яе „нараджаем" праз свае творы і публікацыі.

**Алесь Барскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, мне 23 гады. Я ўжо працую, але яшчэ і вучуся завочна. Нібы на рабоце і ў вучобе ўсё ў парадку, а ўсё ж ёсць у мяне страшны клопат. Не дае мне спаць па начах мая фігура: хаця мой рост — 164 см, быццам бы для дзяўчыны і някепскі, то вага мая пакідае жадаць большага. А важу я не больш-не менш — толькі 95 кг. Яшчэ ў школе я часта адчувала на сабе здзіўленыя позіркі новага вучня ці новай настаўніцы. Тыя, што былі са мною ўжо даўжэй, наогул маёй тоўстай фігуры не заўважалі. Для хлопцаў я была заўсёды файнай сяброўкай, аднак ніхто ніколі не прытуліў мяне да сябе як дзяўчыну, не пацалаваў. А мне ж так падабаўся ў школе адзін хлапец. І вось сёння мне ўжо 23 гады, а маё становішча ў гэтых адносінах ніяк не змянілася. У мяне такое ўражанне, што таўсцею я з дня ў дзень, а для хлопцаў я надалей асталася толькі кумпалькай. Даходзіць да таго, што мне ўжо здаецца, што нават і на вуліцы ўсе глядзяць толькі на мяне. Што не апрану — ва ўсім брыдка! У вузкім — брыдка, у шырокім — таксама. Ну, а замуж дык напэўна я ўжо не выйду ніколі. Няўжо хлопцам, якія сябруюць са мной, патрэбна толькі цела, каб ажаніцца? А душы маёй, дык яны не бачаць?

Мама гаворыць, што трэба ісці да доктара, бо так далей быць не можа. Можа, у мяне нейкія гарманальныя змены. Калі стаю нават з маёй мамай побач у люстэрку, дык яна выглядае супроць мяне, як дзяўчынка. І мне робіцца вельмі крыўдна, што ў мае гады мне даводзіцца перажываць такі кашмар. Часамі, праўда, мама смяецца і кажа, каб я крыху менш ела. Але што я зраблю, калі ў мяне такі добры апетыт... Сэрцайка, я думаю, што ты можаш мне параіць, як знайсці хлопца, маючы такую фігуру, а калі не маеш на гэта рады, то прынамсі скажы, як пахудзець.

**Ленка**

Ленка, цяжкое ты мне дала заданне. Кожны ж хацеў бы быць зграбненькім і шчупленькім, але не кожнаму гэта ўдаецца, хаця ёсць і такія, якія мараць аб тым, каб папаўнець. Справа ў тым, што кожны арганізм рэагуе на ежу інакш: у аднаго адкладаецца шмат тлушчу, у другога — амаль нічога пры той жа самай ежы. Тое, што ў твае гады ты так многа важыш, сведчыць, здаецца, аб нейкіх гарманальных зменах. Ну, а пры ўсім гэтым твой апетыт!

Гэта факт, што хлопцам імпануе эстэтычны выгляд дзяўчыны, і таму цяжка будзе знайсці табе аматара, калі не пахудзееш. Што рабіць, каб пахудзець? Ні ў якім выпадку нельга галадаць. Трэба есці разоў пяць у дзень, ды толькі добра ведаць, што можна, а чаго табе нельга! Напэўна нельга з'есці табе за раз 5 пончыкаў, а наогул лепш не есці іх зусім. Трэба старацца есці худое мяса, нятлустую рыбу, шмат гародніны, нятлустага малака, сыру, яек. Есці невялікія порцыі. Не есці нічога смажанага на тлушчы, старацца есці вараную страву. Не саліць! На другое снеданне і падвячорак можна з'есці гару розных салатаў. Не саладзіць ні чаю, ні кавы. Не мазаць хлеба маслам. А пры тым старацца бываць як мага больш на паветры і ў руху. Калі і гэта табе не дапаможа, тады звярніся да доктара. Бо тады можа быць, што ты сапраўды хворая.

Як толькі пахудзееш, вельмі хутка звернеш на сябе ўвагу нейкага хлопца, які адразу заўважыць і тваю душу.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### ГРЫБЫ СМАЖАНЫЯ

На паўкілаграма свежых грыбоў трэба ўзяць адну цыбуліну, 100 г. саланіны, соль.

Грыбы ачысціць, нарэзаць, заліць кіпетнем, памыць і падсмажыць на саланіне, дадаючы цыбулю і соль. Трымаць на агні, пакуль не стануць мяккія.

### КАПУСТА, ТУШАНАЯ Ў ГЛІНЯНЫХ ЧЫГУНКАХ

На 1 кг капусты трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі шмальцу, 300 г свініны, 1 морквіну, 1 цыбуліну, 2 сталовыя лыжкі памідорнага канцэнтрата або 2 памідоры, 1 сталовую лыжку трохпрацэнтнага воцату, 1 сталовую лыжку мукі, 2 чайныя лыжачкі цукру, хто якія любіць прыправы, соль.

Капусту пашаткаваць, свініну нарэзаць кавалачкамі па 30-40 г і смажыць, пакуль не зробіцца румяная скурка. Цыбулю і моркву нарэзаць саломкай і таксама крыху падсмажыць. Дадаць воцат, памідорны канцэнтрат ці памідоры, цукар, прыправы, соль і падсмажаную на масле муку, разведзеную вадой. Усё палажыць у гліняныя чыгункі і стушыць у духоўцы.

### МОРКВА, ЗАПЯКАНАЯ СА СМЯТАНАЙ

На 6-7 маладых морквін трэба ўзяць 3 сталовыя лыжкі цукру, паўшклянкі смятаны, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

Моркву парэзаць, дадаць цукар і соль і смажыць, пакуль не паявіцца румяная скурка. Пасля дадаць смятаны і запячы ў духоўцы.

### БЛІНЧЫКІ З ГАРОДНІНАЙ

Узяць палову даволі вялікай галоўкі капусты, 4 морквіны, 1 цыбуліну, 1 яйка, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.

Спячы блінчыкі. На блінчыкі бярэм 1,25 шклянкі мукі, 2 шклянкі малака, 1 яйка, чвэрць сталовай лыжкі цукру, 2 сталовыя лыжкі шмальцу ці масла, соль.

Яйкі, цукар, соль, муку і палову малака перамяшаць так, каб атрымалася адналітая маса, пасля чаго ўліць рэшту малака і зноў перамяшаць. Найлепш смажыць блінчыкі на невялікіх патэльнях, змазаных шмальцам ці маслам. Некаторыя гаспадыні выкарыстоўваюць для гэтага алей.

Спёкшы блінчыкі, палажыць на кожны блінчык фарш, загарнуць яго, як канверт, і смажыць. На фарш дробна нарэзваем капусту, моркву і цыбулю, усё перамешваем, дадаем пасечаныя густыя яйкі і солім.

**Гаспадыня**

## СОННІК

83

**Парус,** ветразь — далёкае падарожжа; распускаць яго — прыхільныя абставіны.

**Паручнік** — фальшывы паклоннік.

**Парушыць,** не стрымаць дадзенае слова — цябе пазбягаюць іншыя.

**Парык** — цябе абсмяюць; насіць — павышэнне на пасадзе, паляпшэнне жыцця.

**Парцье** — злосныя і брыдкія абгаворы.

**Парфумы** — чалавечая прыхільнасць; нюхаць — расчараванне.

**Парэчкі** — задавальненне; збіраць, перабіраць — радасць пасля пакутаў.

**Пас** — шчаслівая сям'я.

**Пасаду** атрымаць — добрае палажэнне.

**Пасведчанне** — здабудзеш прызнанне і пашану; выдаваць — здабудзеш сяброў.

**Пасол** — перашкоды на рабоце.

**Пастка** — шкода; на мышэй — цябе намагаюцца ашукаць.

**Пастронак** — судовы працэс; цягнуць — непрыемныя абавязкі.

**Пастух** — добрая пасада, гаспадарка; пастушка — прыемнае спатканне.

**Пасцель** — непрыемнасці.

**Пасціцца** — нястача грошай.

**Пасылкі** — засмучанне з-за дзяцей; атрымаць — важныя звесткі; высылаць — радасная неспадзяванка.

**Паток** — шчасце; купацца ў ім — выздараўленне.

**Патоп** — табе пагражае вялікая небяспека.

**Патрабаванне** — прывітанні ад сяброў.

**Патрон** — неспакой; зараджаць ім зброю — спадзявайся бітвы; пагроза жыццю.

**Патруль** — намер уцёкаў.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ПАКАЦІГАРОШАК

(Заканчэнне. Пачатак у 29-30 нумарах)

БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

— То пойдзем, госць, паглядзім маё багацце, — кажа Цмок.

Паказаў Цмок Пакацігарошку ўсе свае багацці.

— У каго больш дабра, — ухмыляецца Цмок, — у цябе ці ў мяне?

— Я не багаты, — кажа Пакацігарошак, — але і табе няма чым хваліцца.

Цмок узлаваўся:

— Ты смяешся з мяне! Хадзем, пакажу табе адну штуку.

Прывёў Пакацігарошка да той калоды, да якой братоў яго вадзіў.

— Калі ты яе без сякеры пасячэш, без агню спаліш, то пушчу цябе дадому. А не — дык будзеш там, дзе і браты твае...

— Гэта яшчэ паглядзім! — смяецца Пакацігарошак. — Не кажы „гоп“, пакуль не пераскочыш!

Дакрануўся ён мезенным пальцам да калоды, дык яна і рассыпалася на дробныя трэскі. А як дзьмухнуў потым, дык ад трэсак і пылу не засталося.

Бачыць Цмок — незвычайны трапіўся госць. — Паглядзім, у каго з нас большая сіла.

— Навошта далёка ісці. Давай на руках паспрабуем. Я тваю руку сцісну, а ты маю.

— Дзе табе, малакасосу, са мной на руках дужацца! — пачаў гарачыцца Цмок.

— Нічога, давай!

Цмок узлаваўся не на жарты.

— Давай!

Схапіліся яны дужацца. Пакацігарошкава рука толькі пасінела, а Цмокава пачарнела.

— Не, так дужацца я не згодзен, — кажа Цмок. — Давай па-другому.

Дзьмухнуў ён — стаў медны ток. Дзьмухнуў Пакацігарошак — стаў сярэбраны.

Сашчапіліся біцца. Дзьмухнуў Цмок — увагнаў Пакацігарошка ў сярэбраны ток па костачкі. Стукнуў Пакацігарошак Цмока булавою — угруз Цмок у медны ток па калені. Другі раз дзьмухнуў Цмок — увагнаў Пакацігарошка ў сярэбраны ток па калені. А Пакацігарошак як стукнуў Цмока булавою — угруз Цмок у медны ток па самыя грудзі.

Цмок папрасіўся:

— Пачакай, госць: давай адпачнём.

— Не вельмі ты яшчэ і змарыўся, — усміхаецца Пакацігарошак. — Я з вялікай дарогі прыйшоў, і то нішто сябе адчуваю. А ты вылежаўся, як пан.

Падумаў Цмок, пакруціў галавою і кажа:

— Відаць, хлопча, ты заб'еш мяне.

— Дзеля гэтага я і прыйшоў!

— Пакінь мне хоць палавіну жыцця, — заенчыў Цмок. — Бяры сабе ўсё маё багацце, але не дабівай зусім.

— Не, нячыстая сіла, не будзе гэтага! Ты абазваў мяне малакасосам, абняславіў, а цяпер ратунку просіш! Няма табе ратунку!

Вырваўся Пакацігарошак з сярэбранага тока і давай перыць булавою Цмока. Біў, біў і ўвагнаў яго ў медны ток па самыя вушы.

Тут Цмоку і канцы прыйшлі.

Адпачыў крыху Пакацігарошак і пайшоў у Цмокаву стайню. Вывеў аднаго жарабца ў поле, злупіў з яго шкуру мяшком, сам залез у той мяшок. Сядзіць там, чакае.

Прылятае крумкач з крумкачанём. Пачалі шкуру дзяўбсці. А Пакацігарошак — цоп! — крумкачаня за нагу.

Убачыў гэта стары крумкач, загаварыў чалавечым голасам:

— Хто тут?

— Я, Пакацігарошак.

— Аддай мне дзіця.

— Дастань гаючай і жывучай вады — аддам.

— Добра, — згадзіўся крумкач. — Дастану.

Узяў ён дзве пляшкі і паляцеў за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства. А ў тым царстве з адной гары выцякала крыніца з вадою гаючай, з другой — з вадою жывучай. Набраў крумкач вады адной і другой ды вярнуўся назад.

— На, — кажа Пакацігарошку, — табе ваду, толькі вярні мне дзіця.

Тут Пакацігарошак як бач разарваў крумкачаня на дзве часткі.

— Ай-ай! — загаласіў стары крумкач. — Што ты нарабіў?

— Нічога, — кажа Пакацігарошак. — Гэта я дзеля пробы.

Папырскаў ён крумкачаня вадою гаючай — стала яно цэлым, папырскаў жывучай — ажыло.

— Ну, вось бачыш, — радуецца Пакацігарошак, — цяпер я ведаю, якая гэта вада.

Падзякаваў ён старому крумкачу, а сам пайшоў на стайню да мёртвых братоў. Папырскаў іх жывучай вадой — ажылі браты, папырскаў гаючай — выраслі вочы.

— Ай, — кажуць браты, — як жа доўга мы спалі.

— Спаць бы вам тут векі вечныя, каб не я, — адказвае Пакацігарошак.

Браты працёрлі вочы, углядаюцца.

— Хто ты такі? — пытаюцца ў Пакацігарошка.

— Ваш брат.

— Не, — запярэчыў малодшы брат. — У нас братоў болей не было. Ты маніш.

А большы брат кажа:

— Ну, што ж: хто б ты ні быў, а калі нас з бяды вызваліў, дык ты нам і брат.

Абнялі браты Пакацігарошка, падзякавалі яму. А потым спалілі Цмокаў касцяны палац, забралі сястру ды пайшлі ўсе разам дахаты. І справілі там банкет — на ўвесь свет.

Я ў іх быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло, а ў роце не было.

Андрэй Александровіч

## ЛЕТНІМ РАНКАМ

На граніцы дня і ночы,
Службу верна несучы,
Зараніцу-золак тройчы
Граюць пеўні-трубачы.

Абудзілася дзянніца,
Азарыла кожны дом —
Заірдзела чарапіца,
Як маліннік пад акном.

Выплывае ў падарожжа
Дым-дымок у неба сінь:
Пачынаўся ля трыножак
Дзень руплівых гаспадынь.

Пашча сонейка праз ельнік
Падбягае да акна,
Чуе скварку на патэльні,
Пах румянага бліна.

На варотах трапяткія
Селі ластаўкі, яны
Не нашэпчуцца — якія
Сёння сніліся ім сны?

Гаваркія селі гусі
Цэлым воблакам на луг.
Нетаропка поруч бусел
Ходзіць з імі, як пастух.

Не нацешуся — так лёгка
Дыхаць смольнай сінявой.
Я іду, іду далёка —
Ў гушчу шыры палявой.

Росквіт ніў святкуе лета,
Час жніва не за гарой.
За астачай мёду ў кветках
Прыляцеў пчаліны рой.

Я люблю шматкаляроўе
Нашых кветак палявых
І паклоны б'ю з любоўю
Той зямлі, што росціць іх.

Я іду, збіраю ў песню,
Звонкім струнам аддаю
Ўсё, што радуе, і песціць,
І хвалюе кроў маю...



# ЧОРТ З ВОЗЕРА

Пасе хлапец каля возера свіней і вяроўку ўе, каб пасталы залатаць. А тут вылазіць з возера чорт і пытае:

— Што гэта ты робіш?

— Вяроўку ўю, хачу на ўсё возера пятлю накінуць ды ў адзін вузел сцягнуць.

— Не рабі ты гэтага! Дзе ж я са сваёй жонкай ды чарцянятамі падзенуся?

Хлапец адказвае, што не можа ад свайго адмовіцца: вельмі ўжо доўга ён над вяроўкай пацеў. А чорт са скуры лезе, угаворвае, абяцае хлапцу ўсё, што той хоча, толькі б возера не чапаў.

Хлапец і кажа:

— Насыпеш поўную калодку грошай, тады адступлюся.

Узрадаваўся чорт. Праз тры дні, кажа, з грашыма вярнуся.

Пакуль ён па грошы бегаў, хлапец выкапаў яму глыбокую-глыбокую, а зверху кола паклаў. На трэці дзень прыбягае чорт з вялікім мехам грошай і давай іх у калодку сыпаць. Сыпле, сыпле, увесь мех высыпаў, а калодка ўсё пустая.

Пабег назад, яшчэ мех прывалок — калодка ўсё пустая. Можа, паўгода чорт валтузіўся, але калодкі так і не напоўніў.

Што тут будзеш рабіць? Падумаў чорт і кажа:

— Грошай у мяне больш няма, толькі возера ты ўсё роўна не чапай, таму што я дужэйшы за цябе. Давай паглядзім, хто каго перакрычыць.

Згадзіўся хлапец. Вось закрычаў чорт немым голасам так, што зямля задрыжала, кавалкі неба на зямлю пасыпаліся. А хлапец хоць бы што — ходзіць, каменьчыкі нейкія збірае. Пытае чорт:

— Навошта яны табе?

— Вушы заткнуць, а то як я гаркну — адразу аглухнем.

— Што? Так і аглухнем! — спалохаўся чорт. — Тады лепш не крычы. Хадзем сілай памераемся — хто далей камень закіне.

Добра. Схапіў чорт камень, ды як кіне ў неба — толькі гадзіны праз тры зваліўся ён назад ды так у зямлю і ўлез.

А хлапец узяў у чорта кульбу і разглядае, ў руках круціць. Чорт пытае:

— Што ты яе разглядаеш?

— Ды вось гляджу — шкада кульбы. Калі я кіну яе, раней чым праз тры гады не вернецца.

— Не, не, не кідай: вельмі ўжо гэтая кульба мне дарагая, яна яшчэ прапрадзедава. Хадзем лепш наперагонкі бегаць.

Добра. Памчаўся чорт як віхор, а хлапец смяецца:

— І толькі? Я і ганьбіць сябе не хачу, бегаючы з табой. Ганяйся лепш за маім брацікам.

Падвёў ён чорта да вялікага каменя, каля якога заяц ляжаў, ды як крыкне:

— Гэй, касавокі, пайшоў!

Заяц як падскочыць, закінуў вушы за спіну і памчаўся праз кусты і паляны.

— Бачыў? — хваліцца хлапец. — Вось як мой малодшы брат бегае. А ён жа яшчэ ногі за плечы закінуў — і то вунь як імчыцца. А што будзе, калі ён ногі ў ход пусціць!..

(Працяг на стар. 10)

# ЧОРТ З ВОЗЕРА

(Працяг са стар. 9)

А чорт і сапраўды палічыў вушы за ногі,. цераз плечы перакінутыя.

Здзівіўся чорт:

— Калі ўжо ты, хлапец, такі зух, дык што ж у цябе за бацька пасля гэтага? Паказаў бы ты мне яго, га?

— Гэй можна. Хадзем!

Павёў хлапец чорта палямі дахаты. Па дарозе ўбачылі барану.

Чорт тут як тут:

— Што гэта за скрэбла?

— Гэта бацькаў грабянец, валасы ён ім расчэсвае.

Ідуць далей, убачыў чорт каток, якім зямлю баранаваную прыкатваюць.

— А гэта што?

— Гэтай штукай бацька ў люльцы калупае.

Ідуць далей, убачылі саху.

— Гэта што за дзіва?

— А гэтым бацька нос чысціць.

Ідуць яшчэ далей. Убачыў чорт вуллі ў садзе.

— Гэта што?

— Гэта майго бацькі акуляры. Ён жа ў мяне ўжо старэнькі, без акуляраў блох лавіць не можа.

— А гэта што за казаўкі каля акуляраў кружацца?

— А гэта блохі і ёсць, яны часам і ў акуляры набіваюцца.

Тут ужо вырашыў чорт сам пераканацца — ці праўда, што ў акулярах лепш відаць. Падбег да вулляў, пачаў да іх прымервацца. А пчолы на яго як накінуцца, як пачалі яго кусаць — залямантаваў чорт, ногі ў рукі — і ходу.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР. 301254, Тульская обл., Одоевский район, село Рылёво. Штыкову Андрею. 4 клас.

* ✻ *

СССР. 150031, г. Ярославль, ул. Чкалова, д. 82, кв. 40. Каллаш Владимиру. 5 клас.

* ✻ *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул.. Российская, 46а, кв. 19. Беспаловой Ларисе. 12 год.

* ✻ *

СССР. 150031, г. Ярославль, ул. Автозаводская, д. 107, кв. 16. Рыкову Денису. 5 клас.

* ✻ *

СССР. 301254, Тульская обл., Одоевский район, село Рылёво. Демидову Геннадию и Алпатову Валере.

* ✻ *

СССР. 150031, г. Ярославль, ул. Автозаводская, 91, кв. 75. Кондратьевой Свете. 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 160, кв. 29. Таня Гаўрылава, вучаніца 4 класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 67, кв. 33. Бажэна Алісімчык, вучаніца 2 класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 102, кв. 31. Анжэла Птак, вучаніца 5 класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 94, кв. 37. Оля Шпакоўская, вучаніца 5 класа.

* ✻ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 19, кв. 47. Каця Яцэвіч, вучаніца 4 класа.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 109, кв. 37. Таня Бляныко, вучаніца 4 класа.

* ✻ *

БССР, 223017, Мінская вобл., Мінскі р-н, п. Гатава, вул. Металургічная, д. 2, кв. 42. Гінько Таня. 12 год.

* ✻ *

БССР, 222152, Мінская вобл., Барысаўскі р-н, в. Клетная, Крыгер Вольга, 13 год.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 33, кв. 27. Света Панова, 6 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул Волаха, 29, кв. 37. Наташа Вашкевіч, 6 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 4, кв. 66. Наташа Нежурына, 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул Каржа, 6, кв. 30. Віялета Самойлава, 6 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 6, кв. 26 Наташа Панцелеева, 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 111-А, кв. 18. Павел Андрэеў, 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 12. Саша Белазёраў, 3 клас.

* ✻ *

БССР, 220069, г. Мінск-69, вул. Убарэвіча, 118, кв. 68. Алег Сорокін, 7 клас.

* ✻ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 113, кв. 42. Каця Бандарэнка, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 85. Наташа Санкевіч, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул Купрыянава, 9, кв. 72. Света Кузняцова, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул К. Лібкнехта 92. Аксана Рубулах, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 230009, г. Гродна, БЛК-10, кв. 10, Саша Дзешко, 4 кл.

## ДЛЯ ЗДОЛЬНЫХ І ДАПЫТЛІВЫХ

Палажы на стол чатыры алоўкі. А цяпер зрабі з чатырох алоўкаў тры. Ніводнага алоўка забіраць не можна.

Увага! Загадка з хітрынкай! Здагадайся, што тут трэба зрабіць.

* ✻ *

У цябе ў руках два каляровыя алоўкі — жоўты і сіні. А я кажу, што ў цябе тры алоўкі. Трэці аловак — гэта невідзімка. Ён зусім іншага колеру.

Дакажы гэта.

# РОДНАЯ ПРЫРОДА



Малюнак Б. Ф. Рудкоўскіна

## ГУЛЯЕМ У ШАШКІ

Вядомы спартсмен, гросмайстар, былы чэмпіён СССР па шашках Веніямін Гарадзецкі сказаў так: „Шашкі вучаць думаць. Глыбока думаць. Шашкі — гэта пошукі праўды, прыгажосці і гармоніі. Гэта знаходкі, якія патрабуюць азарэння і інтуіцыі“.

Прапануем вам цяпер рашыць задачу, складзеную Гарадзецкім. На дыяграме бачыце, што чорныя, зрабіўшы ход f6 — e5 у думках прывіталі сябе з перамогай. І сапраўды здаецца, што любы ход белых прыводзіць іх да пройгрышу.

І ўсё ж, белыя могуць правесці прыгожую камбінацыю і атрымаць перамогу. А ну, падумайце, як гэта зрабіць!



## ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ

Хлеб — старажытны і вечна малады прадукт, жыццёва важны для чалавека.

Хлеб з'явіўся ў глыбокай старажытнасці, звыш 15 тысяч гадоў назад.

У каменным веку людзі елі зерне ў сырым выглядзе. Археолагі ўстанавілі, што прапрабабуляй хлеба была вадкая каша з зерня. Людзі елі такую страву да таго часу, пакуль не навучыліся выпякаць праснакі з густой зерневай кашы. Прайшло яшчэ некалькі тысячагоддзяў, пакуль людзі навучыліся гатаваць хлеб з кіслага цеста. Ад старажытных егіпцян гэтае ўменне перайшло да грэкаў і рымлян.

У Старажытнай Грэцыі першы ўспамін аб такім хлебе адносіцца да V стагоддзя да нашай эры. Ён лічыўся далікатэсам, яго елі толькі багатыя людзі. Аб тым, з якой павагай адносіліся ў Старажытнай Грэцыі да хлеба, гаворыць і такі цікавы факт. Грэкі былі цвёрда ўпэўнены, што калі чалавек не есць хлеба, то ён будзе пакараны багамі. А ў Індыі ў першых стагоддзях да нашай эры злачынцаў каралі тым, што забаранялі ім есці хлеб. У спартанцаў хлеб лічыўся велізарнай раскошай, яго ставілі на стол толькі ў самых урачыстых выпадках.

Хлебапёкам Старажытнай Грэцыі мы абавязаны, як лічаць многія вучоныя, і самім паходжаннем слова „хлеб“. Яны прымянялі для выпечкі хлеба гаршкі спецыяльнай формы, якія называліся „клібанас“. Ад гэтага слова, на думку вучоных, у старажытных готаў узнікла слова „клайфс“, якое затым перайшло ў мову старажытных германцаў, славян і многіх іншых народаў.

З чаго пачынаецца хлеб?

Хлеб пачынаецца з зерня.

Доўгі і складаны шлях перададолвае зерне, перш чым стаць мукой. Больш як трыццаць машын і механізмаў, якімі абсталяваны элеватар, па чарзе сушаць, чысцяць, прасейваюць, здрабняюць зерне, пакуль яно, нарэшце, не ператворыцца ў мяккі белы парашок.

Адно зярнятка пшаніцы дае каля 20 міліграмаў мукі.

Наша павага, беражлівыя адносіны да хлеба — гэта павага да працы мільёнаў людзей. Кожная хлебная крошка — бясцэнная...

Беражыце яе, не кідайце яе, дарагія дзеці. Цаніце свой дабрабыт, свой дастатак, ганарыцеся тым, што хлеба ў нас удосталь, хлеб наш — самы смачны. Але не забывайце, што і ў нашы дні кожную мінуту на зямлі ад голаду памірае чалавек, які пазбаўлены кавалка хлеба.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✻ *

Маленькая Аня нешта хацела сказаць у час вячэры, але маці не перапыніла:

— У час яды не размаўляюць.

Калі скончыла вячэраць, тата спытаў:

— Дык што ты хацела сказаць?

— Што я забылася зняць гарачы прас з тваёй кашулі.

* ✻ *

Група турыстаў дабрыла нарэшце да станіцы, дзе хацела адпачыць ці нават пераначаваць. Кіраўнік групы пытаецца ў гаспадара станіцы:

— Ці знойдзецца ў вас нешта паесці?

— На жаль, не.

— А можна ў вас пераначаваць?

— На жаль, не.

— А хоць міска цёплай вады ў вас знойдзецца?

— Знойдзецца, але яна вельмі халодная.



„НІВА“ 2.VIII.1987 г.
Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1




**Piątek 31.VII** — 9.00 Teleferie najmłodszych — Lato z piosenką. 9.30 „Kacperek" — serial TVP i „Ani słowa o szkole" — serial CSRS. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Sprawa prof. Gibsona". 11.05 Magazyn Domatora. 16.35 Pr. dnia. 16.40 Mieszkać. 17.00 Wakacje. 17.15 Teleexpress. 17.30 Wakacje — w tym: „Z księgi rekordów Guinessa" — ang. film dok. 18.50 Dobranoc. 19.00 Monitor rządowy. 19.30 Dziennik. 20.00 „Sprawa prof. Gibsona" — kanad. film fab. 20.55 Żniwa 87. 21.05 Sprawa dla reportera. 21.45 Proponujemy, zapraszamy. 21.50 Miss Polonia (1). 23.00 DT. 23.15 Miss Polonia (2).

**Sobota 1 VIII** — 8.25 Pr. dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Dla młodych widzów: „Timur i inni" — „Najpiękniejszy koń" — film radz. 10.30 DT. 10.40 Delta Dunaju — film dok. 11.05 Pr. rozr. 11.55 Piłkarska kadra czeka. 12.15 Na skróty — pr. publ. 12.45 Na świtu krawędzi — pr. poetycki. 13.10 W świecie ciszy. 13.40 Wojsk. pr. dok. 14.10 „Wędrówki dalekie i bliskie" — „Jezioro jogów" — franc. film dok. 15.15 Antologia dramatu powszechnego. 17.05 Los. Dużego Lotka. 17.30 Popołudnie z Pegazem. 18.50 Dobranoc, 19.00 Z kamerą wśród zwierząt. 19.20 Magnes. 19.30 Dziennik. 20.00 „Urodziny młodego warszawiaka" — pol. film fab. 21.35 Czas — mag. publ. 22.05 Siedem dni na świecie. 22.15 Sportowe rytmy tygodnia oraz Kronika Spartakiady Młodzieży. 22.55 DT. 23.00 Proponujemy, zapraszamy. 23.05 Kino Nocne: „Ucieczka gangstera" — film fab. USA.

**Niedziela 2 VIII** — 7.05 TTR — s. II Zajęcia wakacyjne: Rozród bydła. 7.25 TTR — s. IV — Zajęcia wakacyjne — Instytut Uprawy, Nawożenia i Gleboznawstwa. 7.45 Pr. dnia. 7.50 Po gospodarsku. 8.20 Tydzień. 9.00 Kino Teleferii: „O czym szumią wierzby" — serial ang., „Niebieskie lato" — serial hiszp. 10.30 DT. 10.35 Filmowe obserwacje świata (11). 11.25 Poranek symfoniczny Orkiestry PRiTV w Łodzi. 12.25 Siedem anten. 13.10 Kraj za miastem. 13.40 „Indianie Saraguro" — film dok. 14.05 Jerzy Kucia — reżyser filmów animowanych. 14.30 Film fab. 15.30 Pr. rozr. 16.00 Studio Sport — Wyścigi konne. 16.35 Gwiazdy estrady — Hanka Bielicka (cz. II). 17.15 Teleexpress. 17.30 Studio Sport. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 „Blisko, coraz bliżej" (15) „Wycieczka w niedzielę" — serial TVP. 21.15 Pegaz. 21.55 Klub międzynarodowy. 22.25 Loża. 22.35 Wyniki Totalizatora. 22.40 Sportowa Niedziela oraz Kronika Spartakiady Młodzieży. 23.20 DT.

**Poniedziałek 3 VIII** — 16.55 Pr. dnia. 17.00 Wakacje. 17.15 Teleexpress. 17.30 Wakacje. 18.50 Dobranoc. 19.00 Rozmowa na telefon (1). 19.05 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr tel.: G. Danaiłcw — „Sprawa Christowa". 21.20 Żniwa 87. 21.30 Kronika Spartakiady Młodzieży. 21.45 Rozmowa na telefon (2). 22.10 Tel. film dok. — „Limanowianie". 22.40 DT.

**Wtorek 4 VIII** — 9.00 Teleferie: „W dziewięć dni dookoła Verne'a — dzień szósty". 9.30 „Kapitan Nemo". 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Pod wiatr". 16.35 Pr. dnia. 16.40 Tel. Informator Wydawniczy. 17.00 Wakacje. 17.15 Teleexpress. 17.30 Wakacje. 18.50 Dobranoc. 19.00 Gorące ukraińskie lato — rep. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pod wiatr" — serial austral. (5). 21.00 Konferencja prasowa rzecznika rządu. 21.15 „Kołowrót" — tel. film dok. 21.30 W cieniu lata — Ja jestem stąd. 21.45 Kronika Spartakiady Młodzieży. 22.00 Sprawa dla reportera. 22.40 DT.

**Środa 5 VIII** — 9.00 Teleferie — Krąg. 9.35 „Legendy świata". 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Temida" 16.45 Pr. dnia. 16.50 Los Ex. Lotka i Super Lotka. 17.00 Wakacje. 17.15 Teleexpress. 17.30 Wakacje. 18.40 Prosty rachunek. 18.50 Dobranoc. 19.00 Trybuna Sejmowa. 19.30 Dziennik. 20.00 „Temida" — „Strzały o świcie" — film TVP. 21.25 Żniwa 87. 21.35 Kronika Spartakiady Młodzieży. 21.50 „Był taki ktoś" — wspomnienia o Mateuszu Święcickim. 22.40 DT.

**Czwartek 6 VIII** — 9.00 „Kłusownik" — film pol. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Zamach". 16.30 Pr. dnia. 16.35 Patrol. 17.00 Wakacje. 17.15 Teleexpress. 17.30 Wakacje. 18.50 Dobranoc. 19.00 Czym żyje świat. 19.30 Dziennik. 20.00 „Zamach" — duński film fab. 21.35 Teraz — tyg. gosp. 22.05 „Muzeum Ludwiga" — tel. film dok. 22.25 W cieniu lata — „Mała fala". 22.40 DT.




**Bielsk Podl.** Sain Jack — USA 3—5. Zagadka nieśmiertelności — ang. 6—8. Psy wojny — USA 9.

**Czeremcha** Szalony kankan — czes. 5. Wielka majówka — pol. 8—9.

**Czyże** Zapis zbrodni — pol. Oko Proroka — bułg. 5—9.

**Hajnówka** Christine — USA 3—4. Skorumpowani — fr. 5—7. Saint Jack — USA 8—9.

**Michałowo** Cały ten zgiełk — USA 4—6. Być albo nie być — USA 7—9.

**Mielnik** Ostatnia modlitwa — jug. 5—9.

**Milejczyce** Mężczyzna w peruce — NRD Rok spokojnego słońca — pol. 5—9.

**Nurzec** Jak utopić doktora Mraczka — czes. 5. Janosik — pol. 6—7. Samolot w płomieniach — radz. 8—9.

**Orla** Tango naszego dzieciństwa — czes. Saint Jack — USA 5—9.

# ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

| Дзень | Стыль новы | Стыль стары | Святы, імяніны | | Сонца усх.-зах | Месяц усх.-зах. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **нядзеля** | **2** | **20** | **Густава, Карыны** | **Ільі, Аўраама** | **4.57-20.26** | **1.00-19.10** |
| панядзелак | 3 | 21 | Аўгуста, Лідзіі | Сымона, Ануфрыя | 4.59-20.24 | 1.38-19.54 |
| аўторак | 4 | 22 | Дамініка, Пратаза | Мар'і, Магдаліны | 5.00-20.23 | 2.42-20.25 |
| серада | 5 | 23 | Мар'і, Станіслава | Трафіма, Апалінара | 5.02-20.21 | 3.56-20.49 |
| чацвер | 6 | 24 | Якуба, Славы | *Барыса і Глеба* | 5.04-20.19 | 5.14-21.06 |
| пятніца | 7 | 25 | Дароты, Конрада | *Анны*, Алімпіяды | 5.05-20.17 | 6.33-21.19 |
| субота | 8 | 26 | Цыпрыяна, Эміл'яна | Параскевы, Ермалая | 5.07-20.19 | 7.52-21.31 |

## ГАДАВІНЫ

**75 год таму назад**

8.8.1912 г. нар. беларускі пісьменнік Аркадзь Чарнышэвіч (пам. 18.1. 1967 г.), першыя апавяданні апублікаваў у 1940 г., раманы „Світанне" (1957) і „Засценак Малінаўка" (1965), шэраг апавяданняў, многа аповесцей і апавяданняў для дзяцей.

**70 год таму**

4.8.1917 г. нар. беларускі пісьменнік Янка Брыль, абаронца Гдыні ў 1939 г., у акупацыю — партызан на Наваградчыне. Друкуецца з 1938 г., першая кніга „Апавяданні" (1946), аповесці і раманы: „Граніца" (1949), „У Забалоцці днее" (1951), „Птушкі і гнёзды" (1964); шмат перакладзена на польскую мову, між іншым, „белавежцам" С. Яновічам.

**60 год таму назад**

5.8.1927 г. нар. беларускі мастак-жывапісец Мікола Назарчук, працы — лірычныя пейзажы: „Віцебшчына" (1962), „Падснежнікі" (1969), „Лета" (1968), „Вечар у вёсцы Ярмовічы" і інш.

**55 год таму назад**

7.8.1932 г. нар. беларускі літаратуразнавец Адам Мальдзіс, друкуецца з 1954 г., першая кніга — „Творчае пабрацімства" (1966), аўтар глыбокіх і адкрыўчых даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры і культуры і яе ўзаемасувязей з польскай літаратурай і культурай — „На скрыжаванні славянскіх традыцый" (1980); часта бывае ў Польшчы.

### КУДЫ ПАДЗЕЛІСЯ „ГАНУЧНІКІ"?

Калі я была яшчэ дзіцём, то памятаю, як ездзілі па вёсках „ганучнікі", гэта значыць, скупшчыкі ўсякае непатрэбшчыны, старога адзення, анучаў і так далей. Ехаў такі „ганучнік" праз вёску і выкрыкваў: „Давайце, бабы, шматы-латы, транты-ланты!" Гаспадыні, пачуўшы гэта, хуценька выносілі з хатаў усякую барахлечу і абменьвалі за кубкі, за талеркі, лыжкі і што там яшчэ. Памятаю, наваліць усяго таго „ганучнік" поўную фуру з вярхом, што ледзь сам на яе залезе.

Цяпер „ганучнікаў" няма, папрападалі яны кудысьці. Можа няма ахвотных займацца гэтым, а можа, дзяржаваю забаронена? Настаўлялі будак, у якіх анучы прымаюць, але толькі тэарэтычна: у сапраўднасці мала калі яны адчыненыя. А калі ўжо часам і адчыненая, то аказваецца, што завалена яна барахлечаю пад самюткую столь і чакае грузавіка, які павінен быў прыехаць, каб забраць скупленае, заўчора і ўчора, і невядома, ці сёння з'явіцца... Словам, традыцыйны балаган і бязладнасць, няма тае спраўнасці, якая відаць была ў даўніх „ганучнікаў". Хоча хто прадаць або здаць тыя шматы-латы, раз-другі прыедзе да гэтай будкі, потым плюне на ўсё гэта і пазакідае свае ганучы на гарышча, на парахно і мышыныя гнёзды.

А потым слухаем у тэлевізары, што паперы мала, макулатуры мала, таму дэфіцыт і так далей.

**Аўрора**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

**788. Гмінны кааператыў „Сялянская самапомач" у Мілейчыцах — 5000 зл.**
**789. Джэймс Дынглі, Лондан — 35000 зл.**
**790. С. Дзейка ад беларусаў — парафіян праваслаўнай царквы ў Лондане — 101000 зл.**
**791. Н. Залога, Лондан — 11000 зл.**
**792. Мар'я Паўлючук, Беласток — 1200 зл.**
**793. Рыгор Сурэль, Гайнаўка — 1200 зл.**
**794. Уладзімір Суліма, Гайнаўка — 1200 зл.**
**795. Беластоцкая абутковая фабрыка ў Беластоку — 2000 зл.**
**796. Ірына Кулачэўская, Гайнаўка — 1200 зл.**

**Дзякуем.**

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:
у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6 Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Ваяводскі дом культуры хоча і будзе нам дапамагаць • Што абяцае Міністэрства? • Віктар Рудчык перад славутай Спаса-Ефрасіннеўскай царквой у Полацку • Зыгмунт Глогер і Беларусь • Ці БГКТ у Міхалове заснула мядзвежым сном? • У „Шляхам гадоў" — размова Кейстута з Вітаўтам у павалушы • „Зорка" • У „Сябрыне" — размова з самой Мірай Лукшай • Расклад паяздоў з Бельска • Беларуская кухня • Сэрцайка • Сопнік • Гумар**


**Ніва**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. **Рэдагуе калектыў:** Вера Валкавыцкая, Георгій Валкавыцкі (галоўны рэдактар), Мікалай Гайдук (намеснік галоўнага рэдактара), Валянціна Жэшка (карэктар), Міраслава Лукша, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Віктар Рудчык, Марыя Федарук (машыністка), Міхал Хмылеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Ада Чэчуга (сакратар рэдакцыі), Сакрат Яновіч (тэхнічны рэдактар).

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach, w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach;
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach, gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach, gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują, używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW Prasa-Książka-Ruch";
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
- do dnia 10 listopada na I kwartał i półrocze roku następnego, oraz cały rok następny;
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bież.

Zam. 1160/87 r. Nakład 3.400 egz. W-3

## ХІТРЫ „ЗАЯЦ"

Тодзік рассеўся ў аўтобусе на самым шыкоўным месцы і цікуе за салонам. І не дарма: ён ехаў „зайцам", а тут убачыў кантралёра! Сарваўся з сядзення і — да яго:

— Добры дзень, браток, — радасна ўсклікнуў Тодзік. — Як жыццё? Як справы?

Кантралёр і слоўца ў адказ вымавіць не паспеў, а Тодзік зноў:

— Ты ўсё яшчэ там працуеш? А як сям'я? Як дзеці? Як жонка?..

Тут аўтобус пачаў збаўляць ход, і Тодзік радасна выгукнуў:

— Ну, бывай! Мой прыпынак! Прывітанне жонцы! — і кінуўся да выхаду. Кантралёр недаўменна паціснуў плячамі.

А Тодзік праз мінут колькі „запрашаў" яшчэ аднаго кантралёра ў госці... У іншым аўтобусе.

**Мікола Ішчук**

## БЕДНЫ СУСЕД

Адну і тую ж песню дзень пры дні
Сябрам, суседзям і знаёмым
Ён надакучліва вядзе-бубніць:
„Што за кватэры ў нашым доме?!
Няма і павярнуцца як:
Цясноцце! Хіба ж гэта хата!.."
І ані слова бедны небарак,
Як грошы лупіць з кватарантаў.

**Васіль Маеўскі**




— Вам трэба было напісаць кароткую аўтабіяграфію, а не аўтабіяграфічны раман.

# НІЎКА



## ВЯЗЕННЕ

Парфен выйграў у таталётку мільён.

— Ну, а твая жонка як да гэтага аднеслася? — спытаў яго Кастусь.

— О, ад нечаканасці анямела!

— Бацечка мой, колькі табе шчасця адразу выпала!

## РАЗМОВА

Сустрэліся дзве найлепшыя прыяцелькі.

— Ой, даражэнькая! — усклікнула адна. — Ты так пастарэла, я цябе зусім не пазнала!

— А я цябе адразу пазнала, — адказала другая, — па тваёй сукенцы, якую ты носіш ужо дваццаць гадоў.

## АДЗІНОЧНЫ ЦІ МНОЖНЫ

Настаўнік: — Слова „штаны" — гэта адзіночны ці множны?

Вучань: — Зверху адзіночны, а знізу — множны.

## НІКОЛІ

— Пятро, чаму ты дагэтуль не ажаніўся?

— Ды штодня выпадае неадкладная работа, вось і няма часу.

— А ты б у нядзелю паспрабаваў.

— Але ж і адпачыць хочацца.



**Няма калі і ўгару глянуць.
Увесь час у чарку заглядае.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У калгас прыехала камісія. Старшыня калгаса, паказваючы свінаферму, спытаў:

— Ну, як вам падабаюцца нашы парасяты?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— А адкуль яны могуць ведаць? Камісія яшчэ ж не абедала?

— ✻ —

Стурэ адносіцца да тыпу людзей, якія ўспрымаюць усё з найбольшым спакоем. Калі яму паведамілі, што ён атрымаў у спадчыну 3 мільёны, палац і сабаку, Стурэ нейкі час сядзеў моўчкі, затым спытаў:

— Якой пароды сабака?

— ✻ —

Лекар пасля агляду артыста цырка-шпагаглытальніка:

— Вы павінны захоўваць дыету. Забудзьце аб шаблях, шпагах і штыхах. У лепшым разе можна дазволіць сабе ножыкі для чысткі фруктаў.

## ДАЙШЛО

Сатырык чытаў гумарэскі, жарты, а ў зале аніякай рэакцыі: ні смеху, ні ўсмешак на тварах. Абражаны гэтым, сатырык закончыў чытаць і, павярнуўшыся да арганізатара сустрэчы, сярдзіта выпаліў, кінуўшы ў бок маўклівай залы:

— У іх няма пачуцця гумару!

І тады ў зале грымнуў смех.

*Л. Кудла*

**З „Весніка Задрыпоніі"**

## НАВІНЫ ЦЫРКА

Шматгадовыя намаганні работнікаў Ачуцінаўскага цырка не прапалі дарэмна: мядзведзя навучылі правілам добрага тону... Цяпер узяліся за дрэсіроўшчыка.

## ЗНАМЯНАЛЬНАЯ ЗАЯВА

— Тады я ўмываю рукі! — заявіў славуты людазнавец Пітэкантрап-Пітэкантрапоўскі, пачуўшы, што лёс свой трэба стварыць чыстымі рукамі.



## ЧАМУЧКА

Дзед і баба свайго ўнучка
Клічуць весела Чамучкай.
Рацыю, напэўна, маюць,
Што так яго называюць.
Вось у садзік крочыць з дзедам.
Пра ўсё ён хоча ведаць.
Ці то вечарам, ці ўранні —
З яго сыплюцца пытанні,
Задае ён іх бясконца:
— А чаму, дзед, грэе сонца?
Днём заўсёды гэтак светла?..
Ад чаго, дзед, вее ветрык?..
Чаму ноччу цёмна? Зоры,
Як ліхтарыкі, ў прасторы?..
А чаму вясна зіму
Хутка зменіць? А чаму
Месяц свеціць, а не грэе?..
Дзед тлумачыць, дзед пацее,
Трэба ведаць шмат, вядома,
Трэба быць хоць астраномам,
Доктарам усіх навук,
Каб тлумачыць усё без мук.

**Уладзімір Правасуд**



— Яшчэ адну партыю і адпушчу...

# Курёзы

## ГАЛЬШТУК З СЭНСАМ

Папуасы з унутраных акругаў Новай Гвінеі сёння ахвотна займаюцца менавым гандлем. Яны прапануюць турыстам і іншым чужынцам вырабы з дрэва, пер'яў, косці, а ўзамен просяць яскравае сучаснае адзенне, еўрапейскія ўпрыгожанні, транзістары, гаспадарчы пасудак.

Аднак уключэнне ў сферу сусветнага гандлю зусім не адмяняе нашэння традыцыйнага адзення і рэгалій. Вось і можна ўбачыць на мясцовым свяце такую карціну: ідзе малады мужчына з электронным гадзіннікам на запясці, у вязанай шапачцы, у майцы з партрэтам еўрапейскай кіназоркі, а на шыі ў яго... бамбукавы гальштук. Гальштукі гэтыя не простыя — у іх столькі палачак, колькі свіней ва ўладальніка гэтага ўпрыгожання.






**Нішто так не парушае разлікаў, як выпадковы поспех.**